# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 13 (1663) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 27 САКАВІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.




Антаніна Германовіч — здольны, энергічны гарманіст калектыву „Дружба".

## 15 дружных гадоў

15 гадоў споўнілася „Дружбе" — вакальнаму жаночаму калектыву ў Старым Корніне, Дубіцкай гміны. Іх юбілей адзначыла гміна ў новапабудаваным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных, якім кіруе Мікалай Бахмат. Прысутнічала школьная моладзь з Дубіч-Царкоўных і з Грабаўца. Начальнік гміны Анатоль Паўлоўскі, сам родам з Шастакова каля Гайнаўкі, з'яўляецца найсапраўднейшым прыяцелем калектыву. У яго намечаны канкрэтныя планы па развіццю культурнай дзейнасці ў гміне. У гэтых планах калектыў „Дружба" займае адно з важнейшых месц. Гэта пакуль адзіны, жывучы калектыў у гміне. Можна сказаць, „Дружба" — гэта рэпрэзентацыйны калектыў Дубіцкай гміны. Ён выступае са сваімі народнымі беларускімі песнямі на ўсіх гмінных урачыстасцях. Прымае таксама ўдзел у конкурсах беларускай, савецкай і калядных песень.

Свой рэпертуар калектыў „Дружба" чэрпае з „народнай памяці, з саміх сябе".

Ніна Назарук, Мар'я Місеюк, Мар'я Сельвясюк і Ліда Барвюк — гэтая чацвёрка жанчын была першай, якая 15 гадоў таму пачала ў Старым Корніне спяваць разам. А як было? Гаворыць Мар'я Місеюк: „Мелі быць у Корніне дажынкі. Сустрэліся бабы. От, каб штосьці заспяваць, сказалі. Сталі збірацца, рыхтавацца. Выступілі на дажынках. Усім спадабалася. Сталі нас запрашаць паспяваць. І так пачалося".

Чатыры гады спявала корнінская чацвёрка, а потым адышла ад іх клубовая Ліда. Але прыйшлі іншыя, між іншым, дзве маладзенькія дачкі Ніны Назарук — Зоя і Антаніна.

Цяпер, пасля 15 гадоў існавання калектыву, у ім 8 верных і дружных жанчын: Ніна Назарук, Мар'я Місеюк, Мар'я Сельвесюк, Зоя Кулік, Тамара Гаўрылюк, Вера Місеюк, Вольга Герасімюк і Антаніна Германовіч.

Арганізаваліся, вучыліся, падбіралі песні — усё рабілі самі. Недзе на самым пачатку пару разоў завітаў да іх непаседлівы Янка Крупа, якога ўспамінаюць з удзячнасцю.

Цяпер Антаніна ў іх неафіцыяльны кіраўнік. Вельмі здольная, энергічная і працавітая гэтая жанчынка ў апошні час пачала іграць (на слых) калектыву на акардэоне. Спеў у „Дружбы" вельмі меладыйны, разліваецца шырока. Характэрная рыса іх — пявучасць. Галасы маюць моцныя, жанчыны ад прыроды музыкальныя.

Сям'я Ніны Назарук, напрыклад, уся іграе і спявае, бо муж яе Уладзімір таксама іграе на акардэоне. Яны прымаюць удзел у конкурсе музыкальных сем'яў, які арганізуецца Ваяводскім домам культуры.

Строі ў „Дружбы" народнакласічныя. Вышываныя чорна-чырвоным крыжыкам блузкі і доўгія цёмныя спадніцы. На плечы накідаюць жанчыны велізарныя хусткі-шаліноўкі. Выглядаюць, трэба сказаць, элегантна! Строі гэтыя ім купіла гміна — яшчэ адзін доказ апекі і ўласцівага падыходу да культуры ў гміне.

Сваё 15-годдзе адзначалі жанчыны са Старога Корніна ў час, калі рыхтаваліся да раённага агляду беларускай песні. Расказвалі, што амаль штодзённа збіраюцца па хатах на рэпетыцыі, кожны раз у хаце іншай спявачкі. На гэтых рэпетыцыях праспеўваюць дзесяткі песень.

У рэпертуар свой уключылі ў апошні час песню „Цячэ вада ў ярок", пачутую імі з нейкай касеты ці па радыё. У адзін вечар завучвалі яе доўга і ўпарта. Вольга Герасімюк потым прызнаецца: „Усю ноч снілася мне тое вучэнне. Усё і ўва сне я спывала".

Адкуль жа ўзялася назва калектыву „Дружба"?

Аказваецца — вельмі простая справа. Самі такую якраз назву вывелі ад таго, што адчулі і ўбачылі, якія яны між сабою дружныя, згодныя, сардэчныя. І ў адзін вечар, наспяваўшыся ўволю, сказалі: Будзем называцца „Дружба"!" Дружнасць і сардэчнасць „Дружбы" відаць тым вокам кожнаму, хто з імі сутыкнецца

**Вера Валкавыцкая**
**Фота Л. Пільскага**




**Дыназаўр** — дагістарычны звер, які жыў на зямлі нейкіх сто мільёнаў гадоў таму назад і раптоўна загінуў у загадкавых абставінах.

**Гумякі** — рызінавыя боты, без якіх селянін — проста не селянін, а нейкі неразважлівы гарадскі турыст, які памылкова апынуўся ў вёсцы.

Дык цяпер я разумею, чаму **Пётр Нечыпарук**, селянін з вёскі Малінікі, што між Кляшчэлямі і Бельскам, назваў усіх нашых сялян *дыназаўрамі ў гумяках*.

Першы раз мой журналісцкі лёс звёў мяне з Пятром Нечыпаруком у вёсцы Леўкі, што на Бельшчыне, дзе жанчыны ладзілі багатую вечарыну з нагоды нейкага юбілею свайго гуртка вясковых гаспадынь.

Другі раз убачыў я Пятра Нечыпарука за трыбунай у канферэнцыйнай зале ваяводскай управы ў Беластоку, дзе 25 лютага 1988 года праходзіў XIII Ваяводскі з'езд дэлегатаў **сельскагаспадарчых гурткоў, сельскагаспадарчых саюзаў, гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый.** Коратка кажучы, быў гэта ваяводскі з'езд вясковых прафсаюзаў і вясковага самакіравання, у якім наймацнейшым звяном з'яўляецца **Ваяводскі саюз сялян, гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый**, які аб'ядноўвае на Беласточчыне амаль 57500 членаў, згуртаваных у 1225 сельскагаспадарчых гуртках і ў 1222 гуртках вясковых гаспадынь. У межах Беластоцкага ваяводства існуюць зараз 39 эскаэраў і 6 сельскагаспадарчых гурткоў, якія дапамагаюць сялянам у апрацоўцы зямлі.

Мінулы год закончылі СКР-ы звыш 370-мільённым даходам. Так гаварыў **Збігнеў Лінскі** — старшыня праўлення гэтага сельгасгурткоўскага саюза, выступаючы на з'ездзе.

— А яшчэ трэба адзначыць, — гаварыў ён, — што ў рамках нашай арганізацыі дзейнічаюць 92 гурткі сельскагаспадарчай моладзі, што ў 869 вёсках солтысамі з'яўляюцца актыўныя дзеячы сельскагаспадарчых гурткоў, што сярод радных ваяводскай і гмінных радаў народовых знаходзіцца аж 713 дзеячоў нашай сялянскай арганізацыі, што праяўляюць яны таксама сваю грамадскую актыўнасць у органах народнага кантролю.

Многа добрага давялося мне

(Працяг на стар. 4)

# 1000-ГОДДЗЕ ХРЫШЧЭННЯ РУСІ

1988 год з'яўляецца годам 1000-годдзя хрышчэння Русі. Генеральны сакратар Камуністычнай партыі Савецкага Саюза Міхаіл Гарбачоў у часе сустрэчы з Рональдам Рэйганам афіцыйна паінфармаваў, што ў СССР ідзе падрыхтоўка да ўрачыстага святкавання гэтай знамянальнай гадавіны, якое будзе працягвацца ад 5 чэрвеня да 10 ліпеня гэтага года. Галоўныя ўрачыстасці адбудуцца ў Данілаўскім манастыры пад Масквой. Гэты манастыр быў перададзены савецкім. урадам Маскоўскаму патрыярхату Рускай праваслаўнай царквы ў 1983 годзе. Там ствараецца адміністрацыйны і духоўны цэнтр Царквы.

Урачыстасці будуць адбывацца таксама ў Кіеве, Ленінградзе, Уладзіміры і ва ўсіх іншых епархіях.

Прынянцце хрысціянства на Русі ў 988 г. зрабіла вялікі ўплыў на культуру, побыт і маральнасць сям'і, вызваляючы яе ад паганскіх абрадаў. Русь пачала чэрпаць поўнай прыгарш-







Дзеці з Каракуліна

## СЫН ПАЛКА

Генрык Букерт сам добра не ведаў, чаму апынуўся на Кіеўскім вакзале. У кішэні спачывала аштэмпляваная паперка, што выхаванак спецыяльнага дзяржаўнага дзіцячага дома ў Каракуліне, Генрык Букерт, 29 года нараджэння, накіроўваецца на часовае пражыванне ў Данілаўскі дзіцячы прыёмнік.

У кіеўскі цягнік спачатку ніяк не ўдалося яму прабрацца. Праваднікі адганялі ад вагонаў і не хацелі яго слухаць. Са слязьмі ў вачах, са злосцю праводзіў Генрык гэты кіеўскі цягнік. Не ведаў, што яму рабіць, куды падзецца...

І тады спыніўся ля яго такі ж абдзерты і засмолены хлопец.

— Ты — на Кіеў? — запытаў характэрным тонам, у якім адразу пазнаваўся вопытны прайдзісвет. Генрык пацвярджальна кіўнуў галавою.

— Страшэнна сцераглі, чэрці паласатыя! — юнак па-мастацку сплюнуў цераз зубы. — А ты хто будзеш? — пытальна паглядзеў ён на Генрыка і, не чакаючы адказу, дакінуў — Блатны?

— Блатны, — сумна, не падымаючы вачэй, адказаў Генрык Букерт.

— Не сумуй! — суцяшаў яго нечаканы сябра. — Зараз забярэмся ў нейкі прыгарадны цягнік, які курсіруе па кіеўскай лініі, а далей... пажывем, пабачым.

— І, сапраўды, — успамінае Генрык Букерт, — на нейкай замаскоўнай станцыі мы без асаблівых перашкод узабраліся на дах вагона чарговага кіеўскага цягніка.

Змучаны, нямыты і галодны Генрык Букерт апынуўся на станцыі ў Кіравагрaдзе, на поўдні Украіны, у 200 км на поўнач ад Адэсы. На станцыю прыбыў даўжэзны ваенны эшалон. Ля вагонаў стаялі афіцэры. Начышчаныя боты, залацістыя пагоны. Генрык заўважыў маёра і падпалкоўніка. Пружыністым крокам наблізіўся да іх, застыў „на смірна", руку падняў пад казырок сваёй запэцканай шапкі. Адным духам выпаліў:

— Таварыш палкоўнік, дазвольце звярнуцца да маёра!

— Ну, звяртайся, — машынальна казырнуў палкоўнік, усміхнуўшыся.

— Таварыш маёр, вазьміце мяне ў сваю часць! Сынам палка ў вас буду, — заявіў Генрык Букерт.

Афіцэры пераглянуліся.

— А ты хто такі? Адкуль ты ўзяўся? — пачаў распытваць палкоўнік.

— Я — з Беластока...

— З Беластока! — нечакана ўсклікнуў маёр. — Я ж там вайну з Гітлерам пачынаў! У Беластоку мая сям'я засталася. Жонка з сыночкам і груднай яшчэ дачушкай... Можа чуў, можа ведаў? — маёр нечакана схапіўся за сэрца.



— Супакойцеся, маёр! — строга адазваўся палкоўнік і звярнуўся да хлопца:

— Значыць, ты — палячок? І па-польску добра гаворыш?

— Вядома! — хуценька адказаў Генрык Букерт і тут жа дабавіў; — Очывісьце. То ж уродзілэмсень полякем!

— Ну, як, маёр? — бярэм яго на сына палка? — запытаў палкоўнік. — Будзе ў нас свой перакладчык, калі дойдзем да Польшчы!

— Я не супраць, — адказаў маёр. — Нельга ж пакінуць беднага сірату, — ён падумаў пра сваіх дзяцей.

І ў гэты момант здарылася штосьці такое, чаго ніхто не спадзяваўся. Генрык Букерт, пятнаццацігадовы хлапчук, ад радасці проста расплакаўся. Грымнуў на калені перад палкоўнікам Яфімавым і схапіў яго руку, каб пацалаваць.

— Што ты, розум патраціў! — палкоўнік вырваў сваю руку з хлопчыкавых далоняў. — Салдаты не плачуць! Смірна! — загадаў ён, хаця і ў яго вачах таксама заіскрыліся слязінкі.

— І такім чынам стаў я сы-

# Зорка
## старонка для дзяцей

## СВЯТКАВАЛІ РАЗАМ

Дзень жанчын у гэтым годзе „Зорка" адзначала разам з дзецьмі са школы ў Барысаўцы. Па-першае таму, што ў апошні час у гэтай школе вырасла вялікая група пастаянных „зорчыных" карэспандэнтаў, і „Зорка" ведае аб Барысаўцы не толькі, што там адбываецца і чым жыве школа, але і яе планы на бліжэйшы час. А па-другое, дзеці запрасілі „Зорку" пасвяткаваць разам, бо планы ў іх на 8 сакавіка былі вельмі цікавыя.

І вось „Зорка" ў Барысаўцы.

Цікаўныя дзеці яшчэ здалёк заўважылі наша набліжэнне і выйшлі насустрач з транспарантам „Зорку" вітаюць „Зорачкі". Аказваецца, „Зорачкі" — гэта школьны гурток карэспандэнтаў „Зоркі". Назва гэта прыйшла як-бы сама. Неяк на самым пачатку некалькі дзяўчатак удзельнічалі ў „зорчыным" конкурсе на найпрыгажэйшую ілюстрацыю да казкі. І атрымалі тады ад рэдакцыі ва ўзнагароду некалькі кніжак. Настаўнік Андрэй Ялоза, перадаючы дзяўчаткам кніжку „Зорачкі ясныя" (кніжку напісаў Сяргей Новік-Пяюн), сказаў:

— Вам, мае вы зорачкі, падарунак ад „Зоркі".

З таго часу і сталі дзяўчаткі „Зорачкамі".

Але вернемся да Дня жанчын.

Разам з вітаючымі, заходзім у школу. А тут — усе дзеці на ўрачыстым апэлі адразу з парога вітаюць „Зорку" беларускімі песнямі, вершамі, сардэчнымі пажаданнямі. Усе члены гуртка „Зорачкі" маюць на галовах апаскі з бліскучымі зорачкамі. Пасля падсумоўваючага лозунга „Няхай жыве і мацнее наша дружба з „Зоркай" з году ў год", пачынаецца ўрачыстае пасаванне на новых карэспандэнтаў „Зоркі". Мажэнка Ялоза, надзяваючы на галаву апаскі з зорачкамі па чарзе Анэтцы Андрэюк, Янку Яканюку, Арку Буйноўскаму і Янку Андрэюку, жадае ім поспехаў у вучнёўскай творчасці.




*На школьным ганку „Зорку" вітаюць „Зорачкі".*

Прывітанне „Зоркі" і прыём новых карэспандэнтаў былі толькі ўступам да далейшай багатай праграмы святкавання.

Каля гадзіны 10-й па дзяцей прыехала машына, каб завезці іх у Гайнаўку, у Спулдзельню вясковага транспарту (СТВ). СТВ — гэта прадпрыемства, якое ўзяло на сябе апеку над школай у Барысаўцы. Спулдзельня памагае школе, чым толькі можа,

(Працяг на стар. 10)

Кастусь Кірэенка




Цэлую зіму дрыжала бяроза пад мяцеліцамі і завеямі. Дубянела і мерзла пад сіверам, пад сцюжнай навалай.

Туманы красе яе шкодзілі. Вятры галінкі-рукі гнулі, круцілі. Без сокаў спажыўных стрэскалася, сохла яе белая бяроста, ператваралася ў чорную парэпаную кару.

Не думала бяроза, што вытрымае. Баялася, — не перазімуе, не дачакаецца вясны.

Але ўсё ж вытрымала, выстаяла.

Прыйшлі ветры з поўдня, стала высока хадзіць сонца. Растаі, мутнай вадой збеглі ў рэкі і азёры снягі.

На цёплым узгорку, дзе стаіць бяроза, абудзіліся, пайшлі па карэннях бярозы глыбінныя сокі. Усё вышэй, усё вышэй. Да заснулых жылак зялёных пад берастою. Да галін, туманамі і даждамі абмытых, снегавымі шаблямі пасечаных. Усё вышэй, і ўсё вышэй. Да пупышак шчаўрэлых, маразамі марожаных, вятрамі засушаных. Хутчэй, хутчэй! — каб зноў усё ў дрэве абудзілася, ажыло, набрынялася сілаю ды выйшла падужэлае пад сонца. Каб ізноў, як летась, стала бяроза зялёную, кучараваю, магутнаю, прыгожаю!

Рынуліся зямныя сокі па салодкіх карэннях да галін, да вяршыні бярозавай. І раптам — хрась! — стальное долата падсекла дрэва. Хрась! — зноў удар, — і глыбокаю белаю ранай забялела цела бярозы.

Ідуць сокі па карэннях, па жылах бярозавых, спяшаюць да галін, да пупышак, да вяршыні, ідуць, а дайсці не могуць — перагарадзіла ім шлях глыбокая белая рана. І цякуць сокі з раны ўніз, падаюць па жолабе ў падстаўленае карытца.

Цячэ бярозавік... Салодкі, духмяны бярозавы сок...

На колькі дзён пазней, чым іншыя дрэвы, ажыве, зазелянее бяроза на ўзгорку? Колькі хварэць будзе, пакуль заплыве, пакрыецца грубым чорным нарастам сённяшняя белая рана на ёй? А можа, так і не здолее ніколі неражыць боль, будзе доўга чахнуць, марнець, — хоць і зазелянее кожным лісточкам, а больш не пачуе ўжо сілы сваёй былой?

Цячэ бярозавік...

Нехта злівае сок з карытца. П'е сок і радуецца вясне. Пайшоў, панёс салодкі бярозавы сок, хутка закрасуе на ўсёй зямлі новая краса!

Цячэ бярозавік... І нікому не сумна.

Толькі хлопчык малы, што ішоў з мамаю па дарозе, раптам спыніўся, паглядзеў на бярозу, на яе рану і спалохаўся.

— Мама! Мама! — закрычаў з плачам у голасе.

— Што з табою, дзетка?

Убачыла мама бярозу. Усё зразумела. Выцерла ў хлопчыка слёзы, пагладзіла яго па галоўцы, прыхінула да грудзей. І сама праслязілася.

Праслязілася ад радасці, што здолела перадаць душы сынавай сваю любасць да роднай красы, сваё шкадаванне аб усім жывым...

## Вясёлы куточак

Ніл Гілевіч

### НА ЎРОКУ ПРЫРОДАЗНАЎСТВА

— Дзеці, вось вам і дзіва
ў прыродзе.
Птушаняткі маленькія самі
Разбіваюць шкарлупкі насамі
І выходзяць на свет.
Цуд, дый годзе!
— Не! — крутнуў галавою
Алесік. —
Што выходзяць — тут дзіва
малое.
Большым цудам здаецца мне
тое,
Як яны пад шкарлупку
залезлі?!

### ЗГОДНА І ЛЫЖАЧКАЙ

Мама — у гасцях з маленькай
Лізачкай.
За сталом гаворыць
ёй з дакорам:
— Торт у мёдзе трэба есці
лыжачкай,
Пальчыкамі есці — стыд
і сорам!
Аблізала пальцы
паслухмяначка
І сказала — ганьбу каб
адвесці:
— Пакладзі яшчэ кавалак,
мамачка,
Я ўжо буду лыжачкаю есці.

### ПЫТАННЕ Ў АДКАЗ

Бацька ўшчувае вучня — сына:
— Знаеш, ад чаго ссівеў я так?
Што сваруся на цябе няспынна
За ляноту за тваю, лайдак!

Сын унурыўся, зірнуў спадлоб'я
І спытаў, не ўзняўшы галавы:
— Калі гэта праз мяне —
дык добра:
Ад чаго тады мой дзед сівы?

### ХАВАЙМАСЯ, ТАТА!

Убачыў аднойчы ў кіно Ігарок,
Як фарбамі твары
малююць індзейцы,
І ў бацькі спытаўся
(цікаўныя дзеці!):
— Навошта яны сабе
мажуць знарок?
А бацька ў адказ:
— Гэта значыць, яны —
Да бітвы рыхтуюцца, сын,
да вайны.
Назаўтра ж уранку,
падняўшыся шустра,
Малышык да бацькі
ўлуцеў у пакой:
— Хаваймася! Мама стаіць
перад люстрам —
Рыхтуецца йсці
на кагосьці вайной!

Віктар Швед

### ДОБРА, ШТО Я НЕ САБАКА

Свайго сына сварыць мама:
— Што за гразь мясіў нагамі?
Калі не памыеш ног
Не пушчу і на парог.

— Як жа добра, — кажа
Якаў, —
Што я, мама, не сабака,
І не мушу чатырох
Брудных мыць штодзённа ног.

(Працяг са стар. 9)

# СВЯТКАВАЛІ РАЗАМ

а дзеці адказваюць прадпрыемству сардэчнасцю, запрашаючы працаўнікоў на школьныя ўрачыстасці, ездзячы да іх на канцэрты. Вось і ў гэты дзень падрыхтавалі для жанчын СТВ вельмі багаты канцэрт: пастаноўку „На пошце“ і вельмі многа вясёлых і сімпатычных песень і вершыкаў. Выступалі вучні з розных класаў. Але найбольш расчулілі жанчын самыя маленькія — Эля Кураш, Крысь Врублеўскі, Арэк Юзвюк і Дарэк Грыгарук. Жанчыны атрымалі ад дзяцей падарункі ўласнага вырабу: на бярозавых дошчачках па-мастацку былі наклееныя пажаданні і каляровыя сушаныя кветачкі. А Радаслаў Масайла з вялікай сумкі пісьманосца ўручыў жанчынам маленькія драўляныя сэрцайкі — сімвалы дзіцячай шчырасці і ўдзячнасці. Гэтыя прыгожыя цацкі вытачыў уласнаручна Радзікаў тата, Аляксандр Масайла.



*Сцэнка „На пошце“ ў выкананні дзяцей з Барысаўкі.*

Жанчыны пачаставалі артыстаў пончыкамі, цукеркамі, аранжадай. Дзякавалі за добры канцэрт і мілыя словы.

А калі дзеці вярнуліся ў школу, там ужо чакалі іх родныя мамы. І дзеці зноў паўтарылі свой канцэрт, але ўжо тут кожны верш, кожная песня прагучала для той адзінай, найдаражэйшай уласнай мамы.

Потым мамы запрасілі ўсіх дзяцей на пачастунак. Чаго там толькі не было на талерках, якой смакаты, якіх ласункаў!

І мамы панеслі дамоў падарункі, выкананыя дзіцячымі рукамі.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*Жанчыны з СТВ на канцэрце.*

Васіль Хомчанка

# САМЫ ЛЕПШЫ МАЛЮНАК

Маці падмятала падлогу, а Пеця сядзеў за сталом і маляваў.

— Мама, я цябе намалюю, — сказаў ён.

— Намалюй.

І Пеця намаляваў маці з венікам у руках.

Потым маці чысціла пыласосам дываны. А Пеця таксама яе маляваў.

Прыбраўшы ў кватэры, маці памыла на кухні посуд, наскрабла бульбы. Пеця намаляваў яе і за гэтай працай.

Усе малюнкі расфарбаваў каляровымі алоўкамі. Прыгожая атрымалася маці.

Прыйшоў бацька з работы. Пеця адразу ж да яго, пахваліўся:

— Тата, зірні, якую я маму намаляваў. Вось яна падлогу падмятае, а вось — з пыласосам. А тут талеркі мые. Праўда, я добра намаляваў?

— Добра.

— А які самы лепшы малюнак?

— Той, які ты не намаляваў, — адказаў бацька.

— Які ж гэта?

— Дзе і ты памагаеш маме прыбіраць хату, мыць посуд, бульбу скрабсці. А не толькі малюеш.

Уладзімір Ліпскі

# ВЯСЁЛАЯ АЗБУКА

**Заканчэнне.**
**Пачатак у папярэдніх нумарах.**

### ЭКІПАЖ

Дружным экіпажам ехалі літары ў краіну Букварыю. Чуюць, нехта энгекае:

— Эге-гей!.. Эге-гей!..

Прыпыніліся. Падлятае Э, сарамаціць:

— Эх, якая азбука без Э?..

— Эй, Э, сядай экстрана ў наш экіпаж, — закрычалі літары.

Паехалі далей. Раптам чуюць:

— Лю-юдзі! Ю-юра, Ю-юля, Ню-юра, Ню-юся, чакаю-ю вас, ю-юшка гатова!

— Ты хто? — пытаюцца літары.

— Галосная Ю.

— Давай з намі ў Букварыю.

Ю юркнула ў вясёлую кампанію.

Усе літары пачалі выхваляцца: я тое, я гэтае, я там, я тут, я з тым, я з гэтым.

Прыпыняе экіпаж незнаёмая літара, якоча:

— Як-ніяк я — ёсць Я. Ваша яканне без Я яшчэ не яканне.

Літары змоўклі. Цяпер Я выхваляецца:

— Я хаця і апошняя ў азбуцы, а без мяне цяжка. Я — яздок. Мой язык якраз завядзе вас да дзяцей.

— Я, сядай у наш экіпаж, — папрасілі літары.

Па дарозе яны падабралі яшчэ Ы і Ь — мяккі знак, ’ — апостраф, ў — у кароткае.

Вясёлым, дружным экіпажам прыехалі ў Букварыю: Аа, Бб, Вв, Гг, Дд, Дждж, Дздз, Ее, Ёё, Жж, Зз, Іі, й, Кк, Лл, Мм, Нн, Оо, Пп, Рр, Сс, Тт, Уу, ў, Фф, Хх, Цц, Чч, Шш, ы, ь, Ээ, Юю, Яя.

Сябры, сустракайце літары азбукі. Сябруйце з імі!

## З РАЁННАГА АГЛЯДУ Ў ГАЙНАЎЦЫ

Раённы агляд дэкламатарскага конкурсу, прысвечанага літаратурнаму аб’яднанню „Белавежа“, прайшоў у Гайнаўцы 28 лютага. У пачатковую школу № 2 прыехалі з сваімі вучнямі настаўнікі беларускай мовы з адзінаццаці школ: з Дубін, Барысаўкі, гайнаўскіх шк. № 1, № 2 і № 3, Кленік, Курашава, Навакорніна, Махнатага, Новаберазова і Арэшкава.

Агляд прайшоў на высокім узроўні, быў дасканала падрыхтаваны і праведзены.

Асобна былі ацэнены вучні малодшых (II-V) і старэйшых (VI-VIII) класаў.

Сярод малодшых камісія першае месца прызнала Асі Барташэвіч і А. Паўлоўскаму. Другое месца Басі Галёнка і Эве Сапяжынскай, а трэцяе — Мажэне Ялозе і Ярку Шчураку.

Сярод старэйшых першае месца заваявалі: Бася Гіншт і Гражына Галавачык, другое — Аня Аляксеюк, Івона Харкевіч і Бася Садоўская. Трэцяе месца — Бася Гаган, Агнешка Сахарчук, Аня Казімерук і Бася Сахарчук.

Я думаю, што ў дэкламатарскім конкурсе найважнейшае — прымаць удзел, каб выхоўваць у дзяцей любоў да роднай мовы, каб зберагаць нашу мову і шанаваць яе.

Жадаем усім удзельнікам далейшых поспехаў.

**Андрэй Ялоза**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Мажэна Зенюк і Аня Хвашчэўская, вучаніцы шостага класа, добра ведаюць беларускую, рускую і польскую мову і хочуць перапісвацца з сяброўкамі з іншых школ. Пішыце па адрасу: в. Быстрэ 44 і 9, пошта 17-113 Снежкі, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Люцына Сегень, вул. Ліпова 175, 17-200 Гайнаўка Беластоцкае ваяводства. 14 год.

* * *

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава 88-2-13. Пуншыновіч Марыне. 4 клас.

* * *

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты-6, ул. Татаркина, 22-25. Алексеевой Ольге. 7 клас.

* * *

СССР, 163016, г. Архангельск-19, ул. 8. Марта, д. 12а, кв. 10. Ходий Наташе. 4 клас.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 9/2, кв. 28. Чернявской Марине. 8 клас.

## Вучнёўская творчасць

**Сама сябе выдала**

*Калі я была на вёсцы ў бабулі, у мяне быў маленькі сабачка. Яго звалі Тобік. Раніцай, калі нікога не было дома, я дала Тобіку сырнікаў. Яму яны падабаліся. Я дала яшчэ, пасля яшчэ, і скарміла ўсе.*

*А другой гадзіне на абед прыйшоў Ігар. Ён вывярнуў слоік варэння на абрус. Я сказала:*

*— Я ўсё бабулі раскажу.*

*Ігар неяк здагадаўся, што я скарміла сырнікі, і сказаў, што ён таксама раскажа бабулі.*

*Увечары бабуля вярнулася раней за Ігара. Я да яе падсела і пачала расказваць:*

*— А Ігар слоік з варэннем выліў на абрус. Толькі ты яму не кажы, што я табе сказала, бо ён раскажа, што я Тобіку ўсе сырнікі аддала.*

**Яня Ігнатовіч, 5 кл. г. Мінск**

## АДГАДАНКА



Дапамажы Петрыку дагнаць свайго сабачку.

## СТОПРАЦЭНТНЫ ЧЛЕН

Час вольны адпускаецца мне кроплямі —
На пасяджэннях я цяпер штодзень:
Я ўсімі таварыствамі ахоплены,
Я стопрацэнтны, як тавораць, член.
Ці люба гэта мне, а ці не люба —
Каму аб гэтым скажаш ты і дзе?
Лічуся ў таварыствах кнігалюбаў
І выратавання на вадзе.
Пярэчыў: не мая, браточкі, справа
Па возеры ці плыць, ці веславаць.
Прызнаўся нават, што не ўмею плаваць.
— Затое будзеш добра засядаць.
А потым даў добраахвотна згоду,
Бо недзе не хапала галасоў, —
Стаў членам таварыства кветкаводаў,
А потым гэтак жа — сабакаводаў,
А потым — таварыства трусаводаў,
Хоць не трымаў ніколі тых трусоў.
Не браканьернічаў ніколі зроду,
Гарэлка не вытрушвала кішэнь,
І з тымі, хто ахоўвае прыроду,
Цвярозасці, браткі, таксама член.
Каб не падводзіць канчаткова рыску,
Скажу адно: мне не даюць тужыць —
Яшчэ з дзесятак добрых таварыстваў
Ніяк не могуць без мяне пражыць.
Ніяк не могуць без мяне пражыць.
Ніяк я не магу адзасядацца.
Хоць фортачку адну якую мне б!
На сто працэнтаў выключаны з працы,
З той працы, што дае надзённы хлеб.

**Уладзімір Правасуд**

## ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ

У левай верхняй частцы малюнка знаходзіцца квадрат, зрэзаны звілістымі лініямі і раздзелены на дзевяць маленькіх квадратаў. Толькі адзін з гэтых квадратаў адпавядае аднаму з абазначаных лічбамі ад 1 да 26. Паспрабуйце знайсці гэтыя два тоесныя квадраты. На пошукі прызначаем пяць мінут.

Адказ: Квадрат В-В адпавядае квадрату 8.

# НІЎКА

— Гэта загадчык метэаралагічнай станцыі.

### АБОЕ РАБОЕ

— Дазвольце вам запрапанаваць цыгарэту.

— Дзякую, я выращыў з сённяшняга дня не курыць...

— Ах так! Тады возьміце назаўтра.

### НЕВЫЛЕЧНЫ

— Скажыце, пан доктар, як мае справы?

— На жаль, павінен вам сказаць: вы невылечна здаровы.

### КАЛЯНДАР

Сустракае пан Задрыпкоўскі Кастуся і пытае:

— Якое сёння чысло?

— Пачакайце, пагляджу ў кашалёк.

### ДОЎГАЕ ПРОЗВІШЧА

— А як гэтага хлопчыка прозвішча будзе?

— Гм.. прозвішча яго доўгае: Ермаловіч-Шуляльга-Мартаць. Ён ад трох бацькоў аліменты атрымлівае.

Партрэт суседкі

— Я ведаю, што нічога не ведаю. І ведаць не хачу! — сказаў самадур.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Да канца рабочай змены заставаліся лічаныя мінуты. Тут я ўспомніў, што мне вельмі патрэбны тры рублі. У каго ж, думаю, перахапіць да аванса? Вядома, у Пятра. Пётр — мой лепшы сябар. Усё для мяне зробіць. Накіраваўся я да яго, а потым падумаў: „А калі не пазычыць? Я ж тады ў дружбу перастану верыць!

Пайшоў і пазычыў у свайго надобразычлівага Чубышкіна.

Дружбу трэба берагчы...

*

— Калі ты будзеш дрэнна есці, я паскаржуся ў паліцыю! — пагразіў бацька маленькаму Сержу.

Вечарам мальш вышмыгнуў з хаты ў паліцэйскі ўчастак і спытаў у дзяжурнага капрала:

— Мой бацька скардзіўся вам на мяне за тое, што я дрэнна снедаю?

Капрал спярша разгубіўся, але потым, скеміўшы ў чым справа, сцвярджальна кіўнуў.

— Ах, так! Значыць, ён на мяне нагаварыў! Ну і нагавару: у яго ў падвале самагонны апарат!

### ЯК РОБІЦЦА КАР'ЕРА

Трэба рабіць масаж спіны аж да поўнага яе схілення ўніз, да гэтага дадаць развіццё мускулаў — каб імі можна было моцна націскаць патрэбныя для гэтай акцыі спружыны; адсутнасць асабістага гонару і як найбольш апломбу.

З „Весніка Задрыпоніі"

### РЭКОРД УСТАЯЎ

Няўдачай закончылася спроба ўстанавіць новы феменальны рэкорд па скачках у даўжыню. Спартсмену перашкодзіла рыдлёўка, якую забылі ў скачковай яме рабочыя стадыёна.

### З ЛІРЫЧНАГА СШЫТКА

Адрыўкі своіх новых лірычных вершаў чытаў учора Г. Бузун. Напярэдадні жонка ў парыве рэўнасці парвала яго рукапісы.

### У МАГАЗІНЕ

Пакупнік:

— Мне, калі ласка, парфюмерны набор.

Прадаўшчыца:

— А вам для жонкі ці даражэйшы?

# Курёзы

## КЛАЎДЗІЯ МІХАЙЛАЎНА

Седзячы перад пагаслым тэлевізарам, Клаўдзія Міхайлаўна Інішава (Куйбышаў, СССР) гартала Грамадзянскі кодэкс і з радасцю вывіла артыкул, які гаворыць аб кампенсацыі страты ў выпадку невыканання даўжнікам сваіх дагаворных абавязацельстваў. К. М. Інішава падала ў суд аб'яднанне „Куйбышаўвоблтэлерадыебыт". Заказчыца каля пяці год плаціла яму па чатыры рублі ў месяц за гэтак званае абанементнае абслугоўванне — за тое, што майстры будуць без запрашэння наведваць яе, аглядаць тэлевізар і, калі трэба, рамантаваць. Аб'яднанне рэгулярна глытала грошы, як няспраўны тэлефонны аўтамат, які не дае размоў. А калі тэлевізар сапсаваўся, майстар ашукаў — не прыйшоў на спатканне, дзеля якога Клаўдзія Міхайлаўна ўзяла адгул, тады яна і падала ў суд. І выйграла справу! Прыгаворам суда аб'яднанне павінна вярнуць ёй 216 рублёў няўстойкі і заплаціць у карысць дзяржавы 4 рублі 32 капейкі судовых выдаткаў.

Між намі

**Каб зрабіць вялікае глупства, не трэба вялікага розуму.**